**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $6.00 yearly.
„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.

# ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ — ВЛАСТ

### НА 90-ЫЯ ЎГОДКІ АД ЯГОНАГА НАРАДЖЭНЬНЯ

Разгудзіцца мой звон, ад вакон да вакон,
Душы збудзіць, па сэрцах удара,
Дрогнуць сховы цямніц, блісьнуць іскры зарніц,
Заварушацца яры, папары.

**Янка Купала — „Песьня Званара"**

20 кастрычніка сёлета споўніліся 90-я ўгодкі ад нараджэньня выдатнага беларускага культурнага й навуковага дзеяча Вацлава Ластоўскага, а таксама паэты й пісьменьніка, ведамага пад псэўдонімам Власт. Сёлетнія ягоныя ўгодкі ў беларускім савецкім друку ня былі згаданыя ні добрым, ні благім словам. Пытаньне ягонае рэгабілітацыі, падобна як і рэгабілітацыі Язэпа Лёсіка ды некаторых іншых дзеячоў беларускае культуры, аніразу ня было нат закранутае. А тымчасам і ў галіне літаратурнай, і культурнай, і навуковай, ды навет і палітычнай была нагэтулькі шырокай і плённай ягоная дзейнасьць ды гэткае вялікае ўдзельнае вагі, што пры поўным ейным прамоўчаньні абраз беларускага руху ў гэных галінах выглядае няпоўным і зьнявечаным. Вось чаму 90-я ўгодкі ад ягонага нараджэньня даюць добрую нагоду прыпомніць, кім быў Вацлаў Ластоўскі-Власт ды якія ягоныя заслугі ў гісторыі Беларусі.

Вацлаў Ластоўскі нарадзіўся 20 кастрычніка 1883 году ў засьценку Калесьнікі Дзісьненскага павету. Ён быў, падобна як і Янка Купала, толькі самавукам, бо, як і Купала, скончыў усяго народную школу. Але дзякуючы вялікім здольнасьцям ды нязвычайнай працавітасьці, ён, шляхам самаадукацыі, здабыў вельмі шырокі інтэлектуальны гарызонт. Кіруючыся толькі нацыянальна-адраджэнскай ідэяй, заўсёды быў у цэнтры тагачаснага беларускага руху: палітычнага, культурнага й літаратурнага.

У шырокім ахапленьні шмат якіх галінаў нацыянальнай дзейнасьці Вацлаў Ластоўскі быў тыповым нашаніўцам. Ён, як і шмат якія іншыя нашаніўцы, імкнуўся, каб Беларусы мелі ўсе тыя дасягненьні ў галіне нацыянальнае культуры, што маюць і іншыя шчасьлівейшыя за нас народы. Ідучы за нашаніўскім лёзунгам, каб у нас было ўсё тое, што і ў людзей, ён стараўся скрануць зь месца ўсе тыя галіны нацыянальнай дзейнасьці, што былі найбольш занядбанымі й якія былі яму пад сілу. Таму ён палажыў вялікія заслугі як пісьменьнік і паэта, культурны й грамадзкі дзеяч, публіцысты, рэдактар і выдавец, як няўтомны працаўнік на ніве беларускае навукі. У знак прызнаньня й высокай ацэны гэтых нацыянальных заслугаў Ластоўскага Янка Купала прысьвяціў яму яшчэ ў 1909 годзе адзін зь лепшых сваіх вершаў „Песьня Званара".

Як пісьменьнік, першыя свае апавяданьні пачаў друкаваць Ластоўскі ў 1910 годзе ў „Нашай Ніве", падпісваючы іх псэўдонімам Власт. А ўжо ў 1913 годзе Максім Багдановіч у сваім аглядзе сучаснай яму беларускай літаратуры „За тры гады (1911-1913)" даў гэткую ацэну пісьменьніку: **„Власт надрукаваў усяго 3-4 рэчы, але кажную можна ўзяць за прыклад, як трэба пісаць".**

Апавяданьні Власта-Ластоўскага разьвіваюць глыбокія нацыянальныя думкі й вызначаюцца калярытным фальклёрным характарам. Гэта пераважна мастацкія апрацаваньні й насьледаваньні або народных легэндаў, або народных жартаў і анэкдотаў. У мастацкіх легэндах аўтар з асаблівай любасьцяй зварачаецца да беларускай старасьвеччыны. Ягоны найбольшы твор гэтага жанру — аповесьць „Лябірынты" — у нашай літаратуры першы ўзор навукова-фантастычнага гістарычнага твору.

Высака цэнячы творчасьць Власта, беларускае выдавецтва ў Мюнхэне „Бацькаўшчына" выдала ў 1956 годзе асобнай кніжкай ягоныя творы мастацкай прозы, якія ўдалося адшукаць на Захадзе. Затое ў БССР творы гэтага пісьменьніка з прычыны цэнзурнае забароны сяньня зусім ня ведамыя.

Пачынаючы ад 1923 году, Власт друкаваў у розных беларускіх часапісах, галоўна ў выдаваным ім-жа ў Коўні часапісе „Крывіч" і творы вершаваныя. Яны цікавыя першнаперш тым, што ў іх зусім самастойна разьвіваў аўтар тыя-ж ідэі, што й паэты гэтак званае ажыўленскае плыні „Маладняка" ў Менску. Гэтая ажыўленская плынь была, як ведама, ідэйнай і мастацкай асновай, зь якой разьвілася пасьлей і ўзвышэнская плынь із сваім літаратурна-мастацкім згуртаваньнем ды часапісам „Узвышша".

Як працаўнік у галіне навуковай, Ластоўскі мае вялікія заслугі першнаперш як аўтар першай „Кароткай гісторыі Беларусі", выдадзенай яшчэ ў 1910 годзе ў Вільні. Каштоўнай якасьцяй гэтае кніжкі тое, што яна першая ў нашай гістарыяграфіі імкнулася правільна насьвятліць нацыянальны характар мінуўшчыны Беларусі, тэндэнцыйна хвальшаванай шавіністычнымі польскімі й расейскімі гісторыкамі.

Пасьля Першай сусьветнай вайны і ўмацаваньня савецкай улады ў Беларусі, Ластоўскі апынуўся на эміграцыі — у Коўні. Тут ён апрацаваў і выдаў у 1924 годзе вялікі „Крыўскі (беларускі) слоўнік", а ў 1926 годзе — вялікую „Гісторыю крыўскай кнігі". У ёй сабраў і перадрукаваў даступныя яму тэксты старога пісьменства. Як публіцысты, Ластоўскі шмат друкаваў сваіх артыкулаў у „Нашай Ніве", сакратаром рэдакцыі якое ён даўжэйшы час працаваў, а ў 1912-13 гадох быў фактычным ейным рэдактарам. У 1916-17 гадох, у часе першае нямецкае акупацыі, ён выдаваў і рэдагаваў беларускую тыднёвую газэту ў Вільні „Гоман", што была ідэйнай прадаўжальніцай „Нашай Нівы". Знаходзячыся на эміграцыі ў Літве, ён у 1923-27 гадох выдаваў у Коўні згаданы літаратурна-навуковы часапіс „Крывіч", якога выйшла 12 нумароў і які запаўняў у васноўным сваімі літаратурнымі творамі ды публіцыстычнымі й навуковымі артыкуламі.

Ластоўскі адыграў не малую ролю і ў беларускім палітычным жыцьці, будучы ладны час прэм'ер-міністрам ураду Беларускай Народнай Рэспублікі.

У 1926 годзе Ластоўскі пераехаў з Коўні ў Менск, паверыўшы, як і многія тады, што там узапраўды будуецца беларускі дом, як казалася ў гэным часе, і ёсьць шырокія магчымасьці дзеля беларускай культурнай дзейнасьці. У Менску з 1927 году ён займаў становішча дырэктара Беларускага Дзяржаўнага Музэю, а з 1928 году быў акадэмікам і неадменным сакратаром Беларускае Акадэміі навукаў. Калі-ж у 1929 годзе пачалося жорсткае перасьледаваньне беларускага нацыянальна-культурнага жыцьця ў БССР, а ў 1930 годзе пракацілася й першая хваля арыштаў дзеячоў беларускае культуры, Вацлаў Ластоўскі быў арыштаваны й высланы адным зь першых. У высылцы ён і памёр у 1938 годзе. Гэтак перадчасна была абарваная нязвычайна плённая культурная дзейнасьць Вацлава Ластоўскага.

Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя ў сваім шостым томе называе Ластоўскага **„адным зь ідэолягаў беларускага нацыяналізму"** ды дае яму гэткую характарыстыку:

**„Варожа ставіўся да марксізму, адмаўляў клясавую барацьбу і кіруючую ролю пралетарыяту. Лічыў нацыянальную праблему галоўнай у гісторыі, нацыянальныя інтарэсы вышэй за клясавыя, процірастаўляў беларускі народ рускаму, адмаўляў супольнасьць іх гістарычнага лёсу. Быў прыхільнікам і прапагандыстым тэорыі „залатога веку".**

Усе гэтыя „сьмяротныя грахі" Ластоўскага, як іх сфармулявала

# СЯРОД СУРОДЗІЧАЎ У ЭЎРОПЕ

У верасьні — пачатку кастрычніка сёлета ўдалося мне зрабіць даўжэйшае падарожжа ў некаторыя краі Заходняе Эўропы. Галоўнай мэтай гэтага падарожжа было асабіста пазнаёміцца й навязаць бліжэйшыя кантакты й супрацоўніцтва паміж газэтай „Беларус" і беларускай эміграцыяй, што пасьля мінулае вайны апынілася галоўна ў Ангельшчыне, а ў невялічкай сваёй частцы — у Францыі й Заходняй Нямеччыне. У сувязі з тым, што газэта „Беларус" абслугоўвае Беларусаў ня толькі ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі, дзе яна выдаецца, але й Беларусаў у іншых краёх Вольнага Сьвету — Канадзе, Аўстраліі й Эўропе, кантакты гэтыя й супрацоўніцтва конча патрэбныя. З мэтаю прадаўжэньня й замацаваньня гэтых кантактаў, а таксама дзеля паінфармаваньня шырэйшых колаў нашага грамадзтва на Захадзе й друкуецца гэты артыкул.

У Заходняй Эўропе найбольшая колькасьць новай беларускай эміграцыі знаходзіцца ў Ангельшчыне, дзе яна жыве зарганізаваным нацыянальным жыцьцём — грамадзкім і рэлігійным. У Францыі й Заходняй Нямеччыне сяньня яе адно нязначная жменька. Ёсьць невялічкія групы Беларусаў у Бэльгіі й Швэцыі, якіх мне гэтым разам наведаць не давялося, ды адно адзінкі ў іншых краёх Заходняе Эўропы.

Зьяўленьне Беларусаў у Ангельшчыне мае іншую гісторыю, чымся іхнае пасяленьне ў іншых краёх Вольнага Сьвету. У гэтых апошніх беларуская эміграцыя складаецца з тых нашых суродзічаў, што ў часе мінулае вайны былі вывезеныя на прымусовую працу ў Нямеччыне або апыніліся ў ёй дабравольна ў выніку паўторнае акупацыі іхнае бацькаўшчыны маскоўскім бальшавізмам, а па вайне не захацелі вяртацца назад у савецкі калгасны „рай". Асноўнае-ж ядро беларускай эміграцыі ў Ангельшчыне складаюць Беларусы з былой Заходняй Беларусі, што пасьля ейнае савецкае акупацыі ў верасьні 1939 году былі арыштаваныя й прымусова вывезеныя ў Сібір, у часе вайны ўліліся ў польскую армію генэрала Ўладыслава Андэрса, твораную ў Савецкім Саюзе, прайшлі ў ёй усю ваенную кампанію на Сярэднім Усходзе й Італіі, а па вайне, не жадаючы таксама вяртацца на ласку й няласку бальшавіцкага акупанта, пасяліліся ў Ангельшчыне. Сярод іх і былыя жаўнеры беларускіх вайсковых адзінак, што пад канец вайны перайшлі на бок заходніх альянтаў ды таксама апынуліся ў польскім корпусе ген. Андэрса. Колькі год пазьней беларуская эміграцыя ў Ангельшчыне папоўнілася яшчэ й Беларусамі, што вызьмігравалі з ДП-лягераў Заходняе Нямеччыны на сталае жыхарства й працу ў Ангельшчыне.

Гэтая асноўная маса Беларусаў Ангельшчыны — былых жаўнераў польскае арміі — у гэным часе гэта маладыя мужчыны, што, асеўшы ў Ангельшчыне, пажаніліся пераважна з Ангелькамі й творачь сяньня нацыянальна мяшаныя сем'і. Не зважаючы на гэта, жывуць яны сваім беларускім грамадзкім, культурным і рэлігійным жыцьцём.

З матарыяльна-эканамічнага гледзішча маюцца нашыя суродзічы ў Ангельшчыне нядрэнна, калі не сказаць, што ў сярэднім добра, хаця іхны жыцьцёвы ўзровень, на колькі мне ўдалося заўважыць на працягу двух тыдняў часу, значна ніжэйшы, чымся Беларусаў у Задзіночаных Штатах Амэрыкі й Канадзе, а таксама і ў Аўстраліі, на колькі можна пра гэта меркаваць зь інфармацыяў нашых суродзічаў у гэтым краі. Праўда, у сучасны мамэнт цэны на спажывецкія прадукты й прамысловыя вырабы ў Ангельшчыне ў сярэднім удвая ніжэйшыя, чымся, прыкладам, у ЗША, але затое й заработкі ў Ангельшчыне ніжэйшыя таксама ўдвая. 35 фунтаў на тыдзень, што раўняецца прыблізна 85 амэрыканскім далярам, уважаецца добрым заробкам работніка, а 40 фунтаў на тыдзень, што адпавядае 100 амэрыканскім далярам, навет вельмі добрым. Да гэтага трэба дадаць бясплатнае ў Ангельшчыне лячэньне на выпадак хваробы ці калецтва, а таксама й некаторыя іншыя сацыяльныя перавагі.

Пра жыцьцёвы ўзровень нашых людзей у Ангельшчыне, здаецца, можна судзіць паводля вартасьці й якасьці набытых імі ў собскасьць іхных дамоў, раўнуючы да якасьці й вартасьці дамоў Беларусаў у Амэрыцы. Аднасямейныя жыльлёвыя дамы зь невялічкімі агародамі ў гарадох Ангельшчыны ў сярэднім шмат лепшае якасьці за гэткія-ж дамы ў гарадох Амэрыкі. Затое тыя дамы, што пакупілі Беларусы ў Ангельшчыне, куды горшыя за дамы Беларусаў у ЗША. Іншы прыклад. Сярод Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, што ў сярэднім жывуць, хоць і не багата, але ў поўным дастатку, ёсьць ужо некаторыя, хоць і вельмі нязначная яшчэ колькасьць, і багацейшыя ў амэрыканскім маштабе або ў дарозе да гэткіх. У Ангельшчыне-ж гэтае апошняе катэгорыі Беларусаў няма бадайшто зусім.

Затое з гледзішча на ўзровень нацыянальнай сьведамасьці й грамадзкае актыўнасьці Беларусы Ангельшчыны ані ня ўступаюць узроўню нашых суродзічаў у іншых краёх Захаду.

У Ангельшчыне ад даўжэйшага ўжо часу існуюць два галоўныя вогнішчы, у якіх і вакол якіх канцэнтруецца асноўная беларуская нацыянальная дзейнасьць. Гэта, з аднаго боку, Беларуская бібліятэка й музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане ды навуковы „Часапіс беларусаведных студыяў", ("The Journal of Byelorussian Studies"), выдаваны Англа-Беларускім Таварыствам, а з другога боку — масавая грамадзкая арганізацыя Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі. У некаторых мясцовасьцях Ангельшчыны працуюць прадстаўніцтвы арганізацыяў Беларускі Вызвольны Рух і Беларускі Вызвольны Фронт, што праяўляюць значную актыўнасьць у міжнацыянальным супрацоўніцтве.

Найважнейшым беларускім культурна-навуковым цэнтрам у Ангельшчыне зьяўляецца Беларуская бібліятэка й музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане. Запачаткаваная напрыканцы 40-х гадоў прыватнымі кнігазборамі біскупа Часлава Сіповіча й а. Льва Гарошкі ды ўсьцяж папаўняная кнігамі паасобных Беларусаў, была яна афіцыйна адчыненая 15 травеня 1971 году. Колькасьцяй кнігаў бібліятэка невялікая, яна налічвае сяньня каля 12 тысячаў кнігаў улучна з фотакопіямі й мікрафільмамі, але нязвычайна каштоўная сваёй якасьцяй. Бібліятэка гэтая строга сэлекцыянаваная: яна камплектуе вылучна кнігі з самых розных галінаў беларускі, даючы першынство й перавагу рукапісным і друкаваным выданьням мінулых стагодзьдзяў, што сяньня становяць бібліяграфічную рэдкасьць. Прыкладам, у бібліятэцы пераховуюцца фатакопіі, зробленыя з арыгіналаў у бібліятэках сьвету, бязмала ўсіх кнігаў Францішка Скарыны, а таксама фатакопіі й арыгіналы беларускіх і іншамоўных выданьняў XVII — XX стагодзьдзяў, што маюць дачыненьне да Беларусі. Сярод іх гэткія каштоўныя арыгінальныя выданьні, як беларускія слоўнікі І. Насовіча 1870 г. і В. Дабравольскага 1914 г., усе чатыры тамы Смаленскага этнаграфічнага зборніка таго-ж В. Дабравольскага, усе тры тамы этнаграфічных зборнікаў П. Шэйна, шмат віленскіх беларускіх даваенных выданьняў, як і выданьняў 20-х гадоў у БССР, якія сяньня належаць таксама да бібліяграфічных рэдкасьцяў. Немагчыма ў газэтным артыкуле пералічыць хоць-бы найважнейшых кнігаў бібліятэкі, таму зацікаўленых імі адсылаю да артыкулу а. А. Надсана, надрукаванага ў № 2 (136) часапісу „Божым Шляхам" за селетні год.

Бібліятэка адыгрывае вялікую нацыянальную ролю ў тым сэнсе, што шмат якія вучоныя з розных краёў Захаду, што студыююць славянскае культуру, галоўна беларускую старасьвеччыну, шырака карыстаюцца гэтай бібліятэкай і тым самым знаёмяцца зь Беларусяй і папулярызуюць веды пра яе ў шырэйшых навуковых і культурных колах Захаду.

Важную нацыянальную ролю адыгрывае й беларускі музэй, што месьціцца на другім паверху дому, што й бібліятэка. Фактычна гэта яшчэ зародак музэю. Тым ня менш некаторыя ягоныя зборы таксама унікальныя. Вось адзін з прыкладаў. З выдатных і рэдкіх сяньня ўзораў беларускага арнамэнтальна-ткацкага мастацтва XVIII стагодзьдзя — славутыя на ўвесь сьвет слуцкія паясы. Навет у Слуцкім гістарычна-краязнаўчым музэі, як паінфармаваў у газэце „Літаратура і Мастацтва" напрыканцы 1970 году беларускі навуковец Адам Мальдзіс, перахоўваецца „толькі адзін шматок слуцкага пояса". Багатую калекцыю слуцкіх паясоў у Беларускім музэі імя Івана Луцкевіча ў Вільні пасьля мінулай вайны бальшавікі разам з цэлым музэем ды беларускай Вільняй „падаравалі" Літуве. Вельмі сумлеўна, ці мае ў сабе слуцкія паясы й Дзяржаўны музэй БССР у Менску. Затое ў Беларускім музэі ў Лёндане віцяць пад шклом два слуцкія паясы ў добрым стане й адзін касьцельны арнат (тое, што ў праваслаўнай царкве рыза), сшыты з адных слуцкіх паясоў.

Беларуская бібліятэка й музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане, хоць і ня маюць сталых даходаў, а існуюць за ахвяры грамадзтва, перахоўваюць нязьлічоныя гістарычныя культурныя й мастацкія скарбы. Душою бібліятэкі й музэю я. Э. біскуп Часлаў Сіповіч і а. Аляксандар Надсан, дырэктар і працаўнік бібліятэкі. Абодвы яны, пры дапамозе іншых Беларусаў і ангельскіх прыяцеляў, праяўляюць нязвычайную вынаходлівасьць і самаахвярнасьць у папаўненьні бібліятэкі й музэю ўнікальнымі экспанатамі. Іхную працу можна прыраўняць да дзейнасьці славутага Івана Луцкевіча ў ягоным створаньні Беларускага музэю ў Вільні, названага ягоным імем ды гэтак злачынна разбуранага бальшавікамі.

Выдаваны ад 1965 году Англа-Беларускім Таварыствам англамоўны навуковы „Часапіс беларусаведных студыяў", пад рэдактарствам сьпярша прафэсара А. Мэк Міліна, а цяпер праф. Джэмса Дынглі — другое пасьля бібліятэкі й музэю важнае вязьмо ў акцыі навуковае папулярызацыі Беларусі ў сьвеце. У часапісе друкуюць свае артыкулы на беларусаведныя гуманітарныя тэмы, што датычацца ў васноўным да мінулых стагодзьдзяў, ангельскія й беларускія вучоныя. Часапіс на адпаведным навуковым узроўні й высака цэніцца вучонымі Захаду, перш-наперш і галоўна ангельскімі, сярод якіх здабывае ён штораз шырэйшае кола прыхільнікаў і супрацоўнікаў. Больш за 800 экзэмпляраў часапісу атрымліваюць заходнія бібліятэкі й вучоныя, што цікавяцца беларусаведнымі пытаньнямі, апрача гэтага, некаторая ягоная колькасьць высылаецца за зялезную заслону — у краі савецкіх сатэлітаў, далей — у Савецкі Саюз, у тым ліку й на Беларусь.

Англа-Беларускае Таварыства, старшынём якога наш ангельскі прыяцель сп. Обэрон Гэрбэрт, а сябрамі, апрача Беларусаў, і ўплывовыя Ангельцы, выдае ня толькі згаданы „Часапіс беларусаведных студыяў", але й ладзіць сыстэматычна кажнага году навуковыя лекцыі з розных гуманітарных галінаў беларусаведы для навукоўцаў і студэнтаў, што цікавяцца беларускімі пытаньнямі.

Беларуская бібліятэка й музэй імя Францішка Скарыны, „Часапіс беларусаведных студыяў" і дзейнасьць Англа-Беларускага Таварыства ды інтэнсыўныя асабістыя кантакты Беларусаў з Ангельцамі спрычыніліся да таго, што значная колькасьць выдатных Ангельцаў сталіся шчырымі сымпатыкамі й прыяцелямі Беларусаў, а некаторыя зь іх уліліся навет у беларускае грамадзтва Лёндану, застаючыся ня толькі ўжо ангельскімі, а й стаўшыся патрыётамі беларускімі. Я быў прыемна ўражаны, калі ў такой сьціплай нутрана беларускай імпрэзе, як афіцыйная сустрэча з галоўным рэдактарам „Беларуса", ладжаная ў Лёндане Галоўнай Управай Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі 15 верасьня сёлета, прынялі ўдзел і некаторыя Ангельцы. Гэта ведамая ангельская паэтка й перакладніца твораў беларускае паэзіі на ангельскую мову Вера Рыч, прафэсар А. Мэк Мілін, галоўным аб'ектам навуковай дзейнасьці якога беларуская літаратура XIX стагодзьдзя, а так-жа адвакат і музыкалёг сп. Гай дэ Пікарда, які цалком увайшоў у беларускае грамадзтва ды жыве ягонымі клопатамі. Апрача іх, знахо-

**(Працяг на 3-яй бачыне)**

Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя, цалком пакрываюцца з асноўнымі ідэйнымі прынцыпамі беларускага нашаніўскага адраджэнства, зь ідэалёгіі найвыдатнейшых прадстаўнікоў гэтага адраджэнства — Янкі Купалы, Якуба Коласа й Максіма Багдановіча. Яны пакрываюцца таксама зь ідэямі забароненых сяньня ў Савецкім Саюзе твораў Янкі Купалы й Якуба Коласа савецкага ўжо часу аж да 1922 году ўлучна. Розьніца між імі адно тая, што калі Купала й Колас пасьля гэнага 1922 году пачалі, у моц абставінаў, маніфэставаць у сваей творчасьці прасавецкія тэндэнцыі, Ластоўскі гэтага не зрабіў, застаючыся й надалей на сваіх ранейшых нацыянальных пазыцыях. І ў гэтым ягоная асаблівая заслуга.

**Раман Шарупіч**

